Przegląd Wileński Sierakowskiego 21-6


Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду — 3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 12 (37) | Вільня, 25-га траўня 1934 г. | Год 2-гі.


## Патрэбна актыўнасьць.

Нікому ня трэба хіба даказваць, што кожны народ зьяўляецца сам кавалём свайго шчасьця.

Раздзёртаму, пазбаўленаму ўнутранага арганізованага зьместу Беларускаму Народу ратаю гэтае правіла робіцца цяпер хіба найболей ясным.

Якая карысьць беларускаму сялянскаму масыву ад таго, што дасюль некаторыя больш асьвечаныя сыны яго, шукаючы розных орыентацыяў, густа лілі беларускую воду на чужы і часам проста варожы беларусу млын.

Цяжкая мінуўшчына не дала нам магчымасьці узгадаваць сваю нацыянальную інтэлігэнцыю, якая па прыродзе сваёй у цяперашні новы час ёсьць заўсёды найлепшым абаронцам кожнае нацыі.

У сваіх розных орыентацыях беларуская інтэлігэнцыя пацярпела за кароткі час жорсткія паражэньні, панясла цяжкія ахвяры ў сваіх невялікіх па колькасьці радох. Недасьведчаная палітычна, інтэлігэнцыя наша ў сваёй палітычнай тактыцы мерыла няраз вельмі рызыкоўныя дыстанцыі, напрыклад: ад польскага парлямэнту да Саловак ці нават да Камчаткі.

Па інтэлігэнцыі раўняліся народныя масы. Справы драбнейшыя, менш палітычныя, як асьвета, кананьне свае нацыянальнае сьвядомасьці, асяганьне гаспадарчага дабрабыту шляхам перамогі вялікіх сучасных труднасьцяў — гэта ўсё адыходзіла на задні плян перад шырокім палітыкаваньнем адзінак, трапіўшых на верх нацыянальнага руху.

Беларускі селянін быў настолькі разагітаваны ў інтэрнацыянальным кірунку, што часам, у цёмнай глушы таго ці іншага павету, яго больш цікавіў лёс узварушаных унутранымі войнамі Кітайцаў, лёс арыштованага дзе-небудзь у Бэрліне маскоўскага агента, чымся лёс агалелага тут пад самым вокам брата-сярмяжніка.

Шалёны націск компартыі на культурныя пляцоўкі, як напр. ТБШ, зводзіў на нішто актыўнасьць народных масаў, праяўленую імі ў культурна-асьветным кірунку. вядучы самыя пляцоўкі гэтыя да самагубства.

А школьніцтва беларускага ў нас, як ня было, так і няма, за рэдкімі, зусім нязначнымі, выняткамі. Дзьве філіі дзяржаўных сярэдніх школаў — у Вільні і Наваградку ня маюць поўнага контынгенту вучняў.

У гэткім сумным палажэньні нам трэба ратавацца ад поўнага заняпаду нацыянальна-культурнага беларускага жыцьця ў Заходняй Беларусі выпрабаваным даўно спосабам: актыўнасьцю.

ТБА дае магчымасьць у сваіх рамках арганізаваць шырокую беларускую культурна-асьветную акцыю. Дык хай ня будзе пуста ў радох гэтае арганізацыі ад тых, хто мае дзеля гэтае акцыі дасьведчаньне і здольнасьці, у якімбы глухім месцы краю той ці іншы беларускі інтэлігэнт ні знаходзіўся.

Беларускія філіі дзяржаўных гімназіяў павінны быць абсаджаны вучнямі, як пчоламі ў сільным вульлі. Ніякія труднасьці цяперашняга часу ня могуць быць апраўданьнем для тых беларускіх бацькоў, якія, натужыўшыся, маглі-б такі даць сваім сыном і дачком гэтак патрэбную ў наш час асьвету.

Мы павінны арганізованна і стойка дамагацца сваіх беларускіх пачатковых школаў, у якіх дзеці дасталаві-б веду ў сваёй роднай матчынай мове.

А гэта ізноў-жа магчыма толькі ў радох ТБА, куды не пранікні яшчэ інтэрнацыянальныя бацылы.

Беларуская прэса павінна зрабіцца справаю яе падпісчыкаў, акуратных, строгіх да самых сябе ды адважных хоць настолькі, каб падаваць у ёй свой голас аб жыцьці свайго краю, ці хоць-бы свае толькі мясцовасьці.

На беларускую кніжку грэх шкадаваць, цяжка праўда, мазалямі запрацованых залатовак, бо кніга свая — гэта-ж адна з вялікіх культурных азнакаў душы нацыі.

Чыталі мы неяк успаміны аднаго украінскага дзеяча, які ў 1921 г. быў у Рызе, як прадстаўнік Галіччыны, у часе мірных перагавораў Польшчы з бальшавікамі.

У латвійскай сталіцы украінец гэты пабачыў, як прыслуга готэлю, бяз розьніцы полу, кожнае раніцы набывала сваю латыскую газэту і чытала яе, як кожны звозчык таксама з раніцы сядзеў на козлах з сваёю латыскаю газэтаю ў руках. І кожны з іх купіў гэтую газэту," яму ніхто дарма ня даў яе.

А Латышы — гэта-ж маленечкі лікам народ ня толькі ў параўнаньні з Украінцамі, але і з намі—Беларусамі.

— Што-ж з таго, што мы гордыя толькі адным, — падумаў украінец: — нас 40 мільёнаў! А ў гэтага маленечкага латыскага народу, гісторыя якога — гэта гісторыя тых, хто яго вечна заваёўваў, куды больш консумэнтаў (спажыўцоў) свайго друку, чым у шматмільённых Украінцаў.

Латыш сільны сваёю актыўнасьцю.

А ці-ж у Беларуса яе ня хопіць?

## Пара самаазначыцца.

Мы вельмі часта чуем, што значная частка нашага праваслаўнага духавенства ці то чыстакроўныя расейцы, якія ў сваім часе былі насланы сюды царскім урадам для русыфікацыі „Северо-Западнаго Края", ці то моцна зрусыфікаваныя беларусы. Аднак, апошняя анкета, якую правяла Віленская Праваслаўная Кансісторыя сярод духавенства ў справе нацыянальнай прыналежнасьці, дала офіцыяльна каля 95 пр. беларусаў.

Паўстае такім чынам вельмі цікавае пытаньне, ці адказы, прысланыя кансісторыі зьяўляюцца ня шчырымі, ці дзеець нейкая таемная прычына, якая не пазваляе нашаму праваслаўнаму духавенству адкрыта выявіць сваё беларускае аблічча.

Першае дапушэчньне, гэта значыць няшчырасьць — трэба адкінуць,—бо-ж той, хто стаіць перад прэстолам Божым лгаць ня можа, а ўсе сьвяшчэньнікі ўжо дажылі такога зусім сьпелага веку, калі іх нацыянальнае самаазначэньне павінна было адбыцца.

Такім чынам лёгічна мусім зрабіць вывад, што адказы, прысланыя праваслаўнымі сьвяшчэньнікамі, на пастаўленыя ім пытаньні, адпавядаюць сапраўднасьці, г. зн., што Віленская Беларуская Епархія мае больш 95% сьвяшчэньнікаў беларусаў, якія будучы стэрорызованы невялікаю часткаю маскалёў, якім яшчэ, відаць, усё сніцца „единая-неделимая", ня могуць свабодна спаўняць свае пастырскія абавязкі. Зразумела, што на чале гэнае невялічкае кучкі маскалёў стаіць і вышэйшая Духоўная Улада, загады якое, як ведама, у большасьці выпадкаў зьяўляюцца *безапэляцыйнымі ды канчальнымі,* бо-ж інакш трудна было-б сабе вытлумачыць такое недарэчнае зьявішча: прыхаджане ў 99% беларусы, сьвяшчэньнікі ў 95% таксама беларусы, а ў царкве ў 100% пануе расейшчына.

Папярэдні вельмі востры артыкул гр. Рамана Алелькавіча у справе апошняга загаду Архіепіскапа Хвядоса можа паслужыць найлепшым доказам правільнасьці зробленага намі вываду.

Калі-ж яшчэ дадаць да гэтага, што на мясцох, дзякуючы русыфікатарскай тэндэнцыі Архіепіскапа Хвядоса, сядзяць такія протоерэі, як ведамы з свайго выступленьня на апошнім зьездзе сьв. Васілеўскі, дык зусім стане ясна тая прычына, якая змушае сьвяшчэньнікаў крывіць душою і перад Богам і перад людзьмі.

Мы разумеем тых шчырых праваслаўных беларусаў, якія, будучы бясьсільнымі памагчы гору хапаюцца часта за неадпаведныя мэтады барацьбы, але не разумеем большасьці сьвяшчэньнікаў, якія так пакорна паддаліся тым, што *блага чыняць.*

Трэба разглядаць справу шырэй, а ня з гледзішча выключна шкурнага, бо-ж такі стан рэчы адбіваецца й на справе веры. *Цынізм,* з якім адносіцца нашая вышэйшая духоўная ўлада *да элемэнтарных патрэбаў свае беларускае паствы,* пхае часта людзей у рознага роду сэкты, вунію ды наагул бязверра.

І тут якраз нізшае, радавое духавенства павінна сьмела, катэгорычна й арганізавана выступіць у абароне сваіх пасомых, у абароне праваслаўнае веры, бо-ж хоць нашыя Уладыкі любяць прыкрывацца тым, што іх улада, як усякая ўлада, паходзіць ад Бога, але ня менш праўдзіва й тое, што *голас народу — голас Божы,* а гэтаму голасу павінен падпарадкавацца й Уладыка.

Мы ўважаем, што, калі беларускае духавенства ў сучасны мамэнт ня дасьць належнага адпору кучцы расейскіх палітыканаў, якія выкарыстваюць стварыўшыяся абставіны для сваіх палітычных мэтаў — яно будзе не ў парадку перад сваім собскім сумленьнем.

Колішнія прапаведнікі Слова Божага йшлі за праўду й веру на мукі і сьмерць, абавязак сучасных айцоў меншы — палягае ён на адкрытым, чэсным і шчырым вызнаньні свайго „сімвала веры". *Калі яны такімі ёсьць за якіх падаліся, дык павінны, як беларусы, чэсна й сьмела прапаведваць беларусам слова Божае, выключна пабеларуску* і гэтым створаць такую Царкву, што „и врата адовы не одолеют ей" (Мѳ. 16,18).

*Эра.*

## З газэт.

„Беларуская Крыніца" ў бясьсільнай злосьці не шкадуе нам ніякіх эпітэтаў у сваёй бязграматнай зацемцы „Śmiešna i hłupa" ды сваім амбонным звычаем гэтак моралізуе:

„Кожнаму ясна, што беларускі народ мусіць шукаць сабе саюзьнікаў. Гэткімі саюзьнікамі яго, у сучасным яго палітычным палажэньні, могуць быць толькі суседнія народы Украінцы і Літоўцы. Дзеля гэтага — крытычна і дастойна — Беларусы з імі й павінны шукаць паразуменьня і супрацоўніцтва. Зразумела, што ня могуць гэтага прызнаць ворагі беларускай самастойнай палітыкі. Дык і ня дзіва, што казённыя Беларусы з „Роднага Краю" з прын-

цыпам бел.-літ.-укр. зьбліжэньня і супрацоўніцтва заўзята змагаюцца. Падчас выбараў у Варшаўскі Сойм яны разьбівалі бел.-укр. блёк, а цяпер, калі паўсталі гутаркі аб згодзе Літоўцаў з Палякамі, яны на бачынах „Роднага Краю", забываючыся цалком аб інтарэсах беларускіх, з пенай у роце бароняць... Палякоў ад Літоўцаў. Бадай галоўным доказам іх варожасьці да Літоўцаў мае быць невыкананьне Літоўцамі беларуска - літоўскай (калі такая была) умовы з 1918 г., у якой, між іншым прыракаецца аўтаномія беларускай тэрыторыі ў Літве. Вось-жа казённыя Беларусы нават і гэтага не „зразумелі", што гэная ўмова была напісана на выпадак, калі-б у літоўскіх граніцах сапраўды знашлася беларуская тэрыторыя"...

Ня ведаем, чаго тут больш: наіўнасьці, ці тупалобства? З аднаго боку сумляваньне, ці *гэткая умова была?* З другога — яна, бач, напісана была на выпадак, калі-б у Літве апынулася беларуская тэрыторыя. Радзім нашым „самастойным" хадэкам купіць моцна павялічальныя акуляры ды добра паўзірацца на этнографічную карту ну, хоць-бы праф. Карскага. Здаецца нам ізноў-жа, што калі-б Беларусы запраўды самі былі гаспадарамі на сваёй тэрыторыі, дык ніколі не падарылі-б яе Літоўцам за аўтаномію з іх рук. Калі-ж хадэкі ня маюць пэўнасьці, што ўмова з Літоўцамі была ў 1918 г., дык адкуль ім ведама, што яна напісана была на выпадак... і г. д.?

Ня маючы чым крыць—нятрудна зарапартавацца.

Далей-жа нават і сьляпому ясна, што ад гэткага праціўніка, як Літоўцы (калі-б да чаго дайшло), Палякі самі патрапяць абараніцца. Іншая рэч мы — Беларусы. Калі хадэкі пасьпешна выказалі сваё набожнае жаданьне трапіць у Літву ці, лепш кажучы, Жмудзь з магчыма найбольшай беларускай тэрыторыяй пад пахаю, дык мусілі мы раскрыць сваім чытачом вочы, на тое, што робіцца на гэтай Жмудзі з тымі Беларусамі, якія ўжо ў яе трапілі і якія сваім мэмарандумам да ковенскага ўраду найлепш аб беларускай долі ў Літве расказваюць.

Хадэкам гэта сьмешна, а нам здаецца, што досыць трагічна.

Нарэшце, не такі ўжо дурны беларускі чытач, каб хадэкі маглі яго без канца каўпачыць блёкамі Ярэмічаў з Лявіцкімі, ці сваяцтвам беларускае хадэцыі з літоўскаю.

# Гаспадарчы аддзел.

## Пчалярства.

*Гадоўля пчаліных матак.* Добрая пчаліная матка мае для пчаляра вялікую вартасьць. Ад маткі залежыць расплод і сіла пчалінай сям'і, а ад таго і даход які мае пчаляр ад пчол.

На плоднасьць маткі ўплывае яе век. Матка якая мае 3—4 гады пачынае несьці ўсё болей і болей трутнёвых яечак, а пчаліных наадварот менш, дык лепш кожныя 3 гады зьмяняць матку. Вось чаму варта а нават і трэба каб на кожным пчальніку былі запасныя маткі. Маючы запасныя добрыя маткі, пры кожнай патрэбе, ці то матка прападзе, ці то старую ці благую матку можна будзе заступіць запаснок бяз траты для пчаляра. Як толькі пчолы ўвойдуць у сілу, а ў вульлёх пачне паказвацца трутнёвая чарва і трутні, можна прыступіць да вываду пчаліных матак.

Ведаем, што рой, які страціў матку закладае матачнікі з якіх пасьля выходзяць маткі. Вось і можна з такіх матачнікаў выводзіць маткі. Але усё ж, як знатныя пчаляры цьвердзяць, найлепшыя маткі выходзяць з матачнікаў, якія закладаюць пчолы пры натуральнай ройцы.

Ёсьць і яшчэ адзін спосаб, які ужо нават даволі часта практыкуецца, гэта штучная рабленьне матачнікаў, паводле спэціяльна прыгатованай формачкі. У такія зробленыя чалавекам матачнікі спэцыяльнымі прыладамі, асьцярожна пераносіцца пчалінае яечка. Так прыгатаваныя матачнікі адпаведна прымацоўваюцца да рамкі і ўстаўляюцца ў вулей, з якога забіраюць матку, а далей пчолы гадуюць ужо самі маткі. Апошні спосаб досыць марудны, патрабуе вялікай асьцярожнасьці і практыкі, дык мы затрымаемся на двух першых, якія шмат прасьцейшыя і вымагаюць меньшага ўдзелу чалавека. Як мы ўжо казалі для таго каб выгадаваць маткі трэба мець матачнікі. Для таго каб атрымаць матачнікі трэба ў пчолаў забраць матку або чакаць пакуль пчолы самі не заложаць матачнікі пры натуральнай ройцы.

Найлепшым часам для гадоўлі матак ёсьць час галоўнага мёдабраньня і тады пчолы рыхтуючыся раіцца закладаюць шмат матачнікаў. Матачнікі, якія робяць пчолы пры ройцы называюцца раявымі, а матачнікі, да якіх закладаньня пчолаў змушаем забіраючы матку —ратунковымі.

Матка выходзіць праз 16 дзён ад зьнясеньня яечка. Калі пчолы закладаюць матачнік і гадуюць матку з яечка, якое мае тры дні, то матка выйдзе на тры дні раней. На прысьпяшэньне ці спозьненьне выхаду маткі ўплывае бязумоўна тэмпэратура і якасьць корму. Пчолы запячатываюць матачнікі на восьмы дзень а праз другія восім дзён выходзіць матка. Калі маем тым ці і іншым способа атрыманыя матачнікі можам прыступіць да вываду матак. Перш наперш трэба прыгатаваць маленькія вулькі, або разьдзяліць вялікі вулей на некалькі перагародак, каб у кожнай перагародцы зьмясьцілася 3—4 рамкі. Кожная такая перагародка мусіць мець асобную лётку і пажадана, каб лёткі выходзілі ў розныя бакі. У кожную перэгародку ўстауляем дзьве, тры або чатыры рамкі з чарвой, маладой пчалой і мёдам.

Трэба старацца, каб было столькі маладой пчалы, каб пчолы маглі ўгрэць чарву. Лепей даць меней рамак, а больш маладых пчолаў. Так прыгатованы раёк мусіць быць найменьш з дзень да ўстаўленьня матачніка, бо ў праціўным выпадку пчолы матачнік могуць зьнішчыць.

У адну з рамак з чарвой прымацоўваем выразаны з кусочкам вапічыны матачнік. Матачнік трэба вырэзываць асьцярожна і хутка, каб не памяць і не застудзіць. Матачнік прымацоўваем шпількамі з лучынкі ў месцы, дзе найгусьцей абсядаюць пчолы рамку. Праз дзён 5 ці 6, як выйшла матка, робіць яна аблёт і запладняецца, вярнуўшыся ў вулей праз пару дзён заплодненая матка пачынае складаць яечкі.

Як прыйдзе патрэба маладую і плодную матку можна даваць пчолам. Калі хочам замяніць дрэнную матку то трэба яе забраць ад пчол, а пасьля даваць добрую. Запасную, добрую матку трэба ўсадзіць у клетачку з сітка, каб не маглі пралезьці пчолы. Клетачку з маткай устаўляем паміж рамак у належны вулей і трымаем двое сутак, а пасьля матку выпускаем з клетачкі ў вулей.

Калі-б матку ўпусьціці у вулей адразу, пчолы магліб яе забіць. Пчолы, якія страцілі матку ахватней новую прыймаюць, як тыя, якім матку заменьваем.

## Вынішчайце павіліку і заразіху ў канюшыне.

Павіліка і заразіха ёсьць найнебезпячнейшым ліхазельлем для конюшыны. Як павіліка, так і заразіха зьяўляюцца чужаеднымі расьлінамі і, як такія ёсьць шмат шкадлівейшыя за звычайнае ліхазельле. Звычайнае ліхазельле бярэ сабе з зямлі і паветра тую жыўнасьць, якую маглі-б скарыстаць культурныя расьліны і гэтым шкодіць апошнім; павіліка-ж і заразіха, як чужаедныя расьліны, бяруць пажыўныя для сябе матар'ялы беспасрэдна ад культурнае расьліны, прысмоктваючыся да яе. Абодвых паразытаў ёсьць некалькі гатункаў, але мы тут будзем гаварыць аб тых з іх, якія нападаюць на канюшыну.

Павіліка прадстаўляе сабою расьліну з ценькім ўюшчымся сьцяблом. Гэтая расьліна нямае ні лісьцяў, ні карэньняў. На месцы лісьцяў у яе засталіся толькі лусачкі, а ролю карэньняў выконваюць спэцыяльныя прысоскі, якімі павіліка прысмоктваецца да культурнае расьліны і выцягвае з яя сокі. Кветкі павілікі дробныя, белага або ружовага колеру і сабраныя ў клубочкі. Насеньне цёмна шэрага коляру і таксама вельмі дробнае. Ачысьціць насеньне канюшыны ад зернят павілікі вельмі трудна, дзеля чаго досыць часта ў прадажы сустракаецца насеньне канюшыны, занечышчанае павілікай. З гэтае прычыны купляць насеньня канюшыны трэба толькі у салідных фірмах, якія гвaрантуюць, што ў прадаваным імі насеньні павілікі няма.

Насеньне павілікі вельмі жывучае. Калі яно пападае ў зямлю, то можа у ёй пралежаць 4 нават і 6 гадоў, ня трацячы ўсхожасьці. Жывучасьць насеньня яе тлумачыць той факт, што калі яна раз зьявіцца на полі, то трудна яе потым пазбавіцца

Калі зерня павілікі не знаходзіцца глыбака ў зямлі і мае адпаведныя варункі, а гэта знача цяпло і вільгаць, то яно прарастае. Прарастаючае насеньне выпушчае спачатку ценькую нітку, каторая падымаецца ўгару і, калі натрапіць сьцябло канюшыны, зараз-жа абвіваецца наўкола яго, прысмоктваецца і пачынае далей расьці карыстаючыся сокамі канюшыны; пры гэтым павіліка сільна кусьціцца, выпускаючы шмат бочных гонаў. Пашырацца павіліка можа ня толькі насеньнем, але і кожны кавалак яе сьцябла, папаўшы н

# Індыйская легэнда

## аб паходжаньні Жанчыны і Мужчыны.

Калі ўсемагутны Мэгадэва стварыў прыгожую Індыю, дык спусьціўся ня зямлю, каб наглядзецца на свае творы.

З яго лёту зрабіўся цёплы пахнючы вецер. Гордыя пальмы схілілі свае вяршочкі, а пад яго паглядам зацьвілі чыстыя, белыя, далікатныя, пахнючыя лілеі.

Вецер загойдаў крыштальнаю вадою і ўкрыў найхарашэйшую лілею белаю пенаю. Мінута—і з гэтае пены расьцьвіла Жанчына, жанчына, пахнючая, як лілея, лёгкая, як вецер, зьменная, як мора, з красою бліскучаю, як марская пена і гэтак сама прынадпаю, як пена...

Жанчына ў тую-ж мінуту глянула ў крыштальную ваду і крыкнула:

— Якая-ж я харошая!

Пасьля зірнула навокал і сказала:

— Ах, які сьвет цудоўны!

Калі Жанчына выйшла на бераг (выйшла сухою з вады і з таго часу жанчыны заўсёды выходзяць сухімі з вады), дык з неба ўтаропіліся ў яе мільярды цікавых вачэй. Гэтыя вочы заблішчэлі з радасьці. З таго часу сьвецяць зоры.

З таго вось зорка Вэнэра загарэлася зайздрасьцю—праз гэта яна і сьвеціць зырчэй за іншыя.

Жанчына гуляла па лясох і сенажацях і ўся прырода моўчкі адухаўлялася ёю. Гэта абрыдла ёй і яна закрычала:

— О, ўсемагутны Мэгадэва! Ты стварыў мяне гэткую харошую! Усё захоплена мною, але я ня бачу і ня чую ўцехаў; усё гэта толькі надыхнёнае маўчаньне.

Пачуўшы гэту жальбу, усемагутны Мэгадэва стварыў безьліч цудоўных птушак. Яны пялі салодкія песьні аб хараստве прынаднае Жанчыны. Але за адзін дзень пяяньне птушак абрыдла Жанчыне. Яна сумавала.

— О, ўсемагутны Мэгадэва! — закрычала: Мне пяюць салодкія песьні і ў сьпевах гэтых шчабечуць аб маім хараստве.

— Але-ж якое гэта харасьтво, калі ніхто ня хоча абняць мяне і ніхто ня прытуліцца да мяне.

Тады ўсемагутны Мэгадэва стварыў прыгожую пруткую зьмяю.

Яна круцілася каля харошага цела Жанчыны і поўзала каля ног яе.

Паўдня была Жанчына задаволена ды раптам засумавала і закрычала:

— Ах, калі-б я запраўды была харошая, дык іншыя стараліся-б мяне насьледаваць. Як відаць, дык я ня вельмі ўжо й харошая!

Усемагутны Мэгадэва, каб задаволіць Жанчыну, стварыў малпу. Малпа насьледавала кожны рух Жанчыны і Жанчына ў працягу шасьцёх гадзін была задаволена, але раптам закрычала праз сьлёзы:

— Я гэткая харошая, гэткая харошая! Мяне асьпёўваюць, мяне абнімаюць, поўзаюць каля ног маіх і насьледуюць мяне.

— Дзівяцца з мяне і зайздросьцяць мне, што мне аж робіцца страшна. Хто-ж абароніць мяне, калі хто з зайздрасьці ліха мне зрабіць захоча?

Тады Мэгадэва стварыў магутнага льва. Леў сьцярог Жанчыну. Яна тры гадзіны была задаволена, а пасьля трох гадзін заплакала:

— Я харошая! Мяне песьцяць, а я — нічога! Мяне любяць, а я — нічога! Не магу-ж я любіць гэтага вялізнага, страшэннага льва, перад якім я чую страх ды паважаньне!

І ў тую-ж мінуту, па волі Мэгадэвы зьявіўся перад Жанчынаю маленечкі, харошанькі сабачка.

— Якое мілае зьвераняткa! — гукнула Жанчына і пачала гладзіць ды цалаваць сабачку.

— Як я яго люблю, — казала.

Цяпер Жанчына мела ўсё і ні аб чым болей не магла прасіць.

Гэта яе разздлавала. Каб выліць свой гнеў, яна ўдарыла сабачку. Сабачка забрахаў і ўцёк, ударыла льва — леў зароў і пабег; яна наступіла на зьмяю нагою — зьмея засычэла і папаўзла. Малпа таксама ўцякла і птушкі адляцелі, калі Жанчына пачала крычаць на іх.

Цяпер жанчына засталася адна.

— Ах, я няшчасная! — заплакала яна, ламаючы рукі, — мяне гладзяць, хваляць, калі я ў добрым настроі, а калі я ўзлуюся, дык тады ўсе ад мяне ўцякаюць.

— І цяпер я адна! О, усемагутны Мэгадэва! Апошні раз ужо прашу цябе: стварь мне гэткую істоту, на якую я магла-б выліваць свой гнеў, а яна, каб ня мела адвагі ўцячы ад мяне, калі я ўзлуюся, якая мусіла-б цярпліва зносіць усе мае капрызы.

Тады ўсемачутны Мэгадэва доўга думаў і нарэшце стварыў Жанчыне... „*Мужчыну*".

Падаў **З—ык.**

вільгэтную зямлю, пушчае бочны гон, які таксама абвівае канюшыну і расьце далей.

Цьвіце павіліка пачынаючы з месяца чэрвеня і да позьняе восені, а дзеля таго гаспадар павінен усе стараньні прыкласьці, каб зьнішчыць яе яшчэ з вясны, покуль не пачне цьвісьці і выдаваць насеньня. Барацьбу з павілікай трэба вясьці наступным способам: месца, у якіх павіліка апанавала канюшыну, трэба нізка пры зямлі выжаць (выжынаць мусім ня толькі тое месца, дзе знайшлі павіліку, але і наўкола яго 1 мэтр шырынёю) зжатыя, расьліны зьмяшаць з сечкаю, абліць газаю і запаліць, а самое месца, дзе была павіліка, глыбака перакапаць.

Нішчыць павіліку можна яшчэ рошчынам сярчану жалеза. Для гэтае мэты ўжываецца рошчын досыць сільны: на кожны кілёграм сярчану жалеза даецца 6 літраў вады. Пры гэтым мусімо дадаць, што вышэй пададзены рашчын сярчану жалеза з пэўнасьцью нішчыць толькі самую расьліну павілікі, а не яе насеньня. З гэтае прычыны прыступаць да барацьбы з павілікаю пры дапамозе сярчану жалеза, трэба таксама загадзя, пакуль яшчэ павіліка не зацьвіла.

Апрача павілікі канюшыне шкодзіць, як мы ўжо казалі яшчэ іншы паразіт— гэта т. зв. заразіха. У працілежнасьць да павілікі, заразіха нападае не на сьцябло, а на карэньня культурнае расьліны, з якіх і выцягвае сокі. Заразіха выпушчае з зямлі на паверх простыя, бязлістыя сьцяблы, якія па некаторым часе разцьвітаюць. Адно сьцябло заразіхі выдае вялікія кольнасьці дробнага насеньня, якое разносіцца ветрам. Барацьба з заразіхаю павінна вясьціся тымі самымі способамі, што і з павілікаю.

*З. К.*

## Майскі жук — вораг земляроба.

Майскі жук вылазіць з зямлі ў траўні месяцы і робіць вялікія шкоды ў садох, дзе часта дашчэнту зьядае лісьця. Зьяўляецца майскі жук у вялікіх колькасьцях ня кожны год, а пэрыядычна, — праз кожныя 3—4 гады. Майскі жук ня толькі шкодзіць сам, як такі, але непараўнальна большыя шкоды робіць яго лічынка. У канцы траўня майскія жукі складаюць у зямлю яечкі, з якіх і вылягаюць лічынкі. Лічынка прадстаўляе сабою белага чарвяка з жоўтаю галавою, якога звычайна завуць баразняком Лічынка майскага жука вельмі пражорлівая. Жыве яна ў зямлі працягу 3—4 гадоў і паядае карэньні амаль што ўсіх гаспадарчых расьлінаў, якія толькі ёй пападаюцца.

Для нішчаньня лічынак майскага жука вельмі многа спрычыняецца рознае птаства, а дзеля таго культурныя гаспадары падчас васеньніх і вясеньніх ворак вывозяць на поля курэй. Апрача нішчаньня лічынак трэба вясьці барацьбу і з самым жуком. Дзеля гэтага, вясною, калі майскія жукі зьяўяцца, трэба іх раніцаю страсаць з дрэваў на падасланыя посьцілкі, а пасьля абліваць гарачаю вадою. Мёртвыя жукі могуць быць выкарыстаны як корм для курэй, у праціўным разе іх выкідаюць на кампост.

## Як атрымаць дакумэнты з Саветаў.

Міністэрства ўнутраных спраў у паразуменьні з мін. замежных спраў урэгулявала способ атрымліваньня з Саветаў усялякіх дакумэнтаў.

Асобы, каторыя хочуць атрымаць якіколечы дакумэнт, павінны зьвяртацца беспасярэдна заказным лістом да ўласьцівага консуляту Рэчыпаспалітай Польскай у ССРР. За выдабыцьцё дакумэнту ўстаЛены, пэўныя аплаты, якія выносяць ад 32 да 100 зл. залежна ад дакумэнту, а іменна: а) за выдабыцьцё і нотар'яльнае сьцверджаньне (залегалізаваньне) документу адносна цывілнага стану, або выказу стану службы—45 зл., 2) за выдабыцьцё і нотар'яльнае сьцверджаньне школьнага, ці унівэрсытэцкага пасьведчаньня, а таксама дакумэнту адносна маемасычі—100 зл.; 3) за нотар'яльнае пасьведчаньне дакументу стану адносна цывільнага або выказу стану службы, перасланага пэтэнтам (прасіцелем) туды — 45 зл.; 4) за нотар'яльнае пасьведчаньне поўнамоцтва, перасланага пэтэнтам 90 зл; 5) за нотар'яльнае сьцверджаньне школьнага, ці унівэрсытэцкага пасьведчаньня, перасланага пэтэнтам—60 зл.; 6) за шуканьне асобаў, за пасярэдніцтвам „НКІД" якія загінулі на абшары ССРР—32 зл.

Адпаведную кольнасьць грошы павінен пэтэнт пераслаць вартасьцёвым лістом адноснаму кансулу; у выпадку, калі-б з якіх колечы прычын, патрэбнага дакумэнту ня можна было-б атрымаць—грошы будуць зьвернены па адлічэньні коштаў маніпуляцыйных. У выпадну незаможнасьці, трэба да заявы далучаць адпаведнае пасьведчаньне адміністрацыйных уладаў, аб стане маемасьці пэтэнта, і пэтэнт можа быць звольнены ад коштаў.

Інваліды, якія падчас вайны страцілі здароўя (напрыклад калецтва), могуць атрымліваць пасьведчаньні, сьцьвярджаючыя прычыну калецтва бясплатна. Таксама заявы ў справе выдабыцьця дакумэнтаў з СССР перасыланыя дзяржаўнымі або самаўрадавымі ўрадоўцамі для цэляў службовых (напрыклад для залічэньня да эмэрытуры службы у царскай Расеі), звольнены ад коштаў консулярных; аплаты невількія), належныя савецкім ўладам павінен урадовец пераслаць беспасярэдня ў консулят Рэчпасп. Польскай ў ССРР. На заявах урадоўцаў павінен быць прыпісак адпаведны вышэйшай, улады, якой падлягае урадовец, сьцьвярджаючы неабходносьць дакумэнту для цэляў службовых.

Ніжэй падаем сьпіс консулятаў Рэчыпаспалітай Польскай на обшары ССРР.

МАСКВА. Аддзел консулярны пры Пасольстве Р. П. у Маскве, вул. 3-я Мешчанская 32/34. Вокруг консулярнага аддзелу абымае тэрыторыю ССРР, за выняткам губэрніяў: Чарапавецкай, Ленінградзкай, Пскоўскай а таксама абшару УССР (Украіна) і БСРР (Беларусь).

Да кансулярнага аддзелу трэба перасылаць усялякія заявы, датычачыя выдабыцьця выказу стану службы ў войску, таксама дакумэнтаў шпітальных з часоў службы ў б. расейскім войску.

ХАРКАЎ. Гэнэральны консулят, вул. Ракоўскага 15. Вокруг Гэнэральнага Консуляту абымае тэрыторыю УСРР (Украіны), за выняткам вокругу консуляту ў Кіяве.

КІЯЎ. вул. Лібкнэхта 1. Вокруг: Белацэркаўскі, Бердычаўскі, Херсонскі, Чэркаскі, Чарнігаўскі, Чуманьскі, Камянецкі, Кіяўскі, Конотопскі, Карастэньскі, Міналаеўскі, Адэскі, Пласкіраўскі, Першамайскі, Прылуцкі, Шэпетавецкі, Тульчынскі, Вініцкі, Валынскі, Зінавейскі, а таксама тэрыторыю Аутанамічнай Малдаўскай Саюзнай Рэспублікі.

ЛЕНІНГРАД. Консулят, вул. Набережная Краснага флота 14. Вокруг губ.: Черэпавецкая, Мурманская, Ленінградзкая, Ноўгарацзкая, Пскоўская.

МЕНСК. Гэнэральны консулят, вул. Савецкая 84. Вокруг абымае тэрыторыю БСРР, павет Гомэльскі і Рэчыцкі.

ТЫФЛІС. Гэнэральны консулят, вул. Корганоўская 24. Вокруг абымае тэрыторыю Закаўкаскай Саюзнай Рэспублікі.

—

*Альм.*

## Сцэна.

(гл. № 11 „Р. К“.).

Вельмі важна для кожнага артыста пазбавіцца ад арганічных недахопаў свае мовы. Да іх галоўным чынам належыць *шыпілявасьць, картавасьць* і *заіканьне*. Пад шыпілявасьцяй трэба разумець вымову гукаў *с* і *з* са сьвістам. Пры такім выгаварываньні гэтых гукаў, самы канец языка высунены з рота. Для таго, каб пазбавіцца гэтага недахопу, трэба старацца выгаварываць гукі *с* і *з* пры зжатых чэлюсьцях; пры гэтым рэкомэндуецца паставіць зубы адны на другім так, каб рэжушчыя краі рэзцоў датыкаліся. Частымі практыкаваньнямі можна таксама навучыцца правідлова выгаварываць гукі *с* і *з*. Што датычыць картавасьці, то некаторыя лічаць яе за асабліўую аздобу гутаркі і ня лічаць патрэбным пазбавіцца. ад гартанага выгаварaньня гука *р* Для дэклямацыі ў беларускай мове, па свайй прыродзе гучнай і выразнай належыць асабліва імкнуцца пазбавіцца ад картавасьці- Гэта дасягаецца шляхам практыкаваньняў над вібрацыяй самаго канца языка. Аўтары твораў аб дэклямацыі кажуць, што неабходна імкнуцца шляхам практыкаваньняў над гукам *р* у злучэньні з якой небудзь галоснай, а затым над чыстым гукам *р* пазбавіцца гэтага дэфэкту. Заіканьне, асабліва ў цяжкіх формах, вымагае ўпорнага лячэньня і ня можа быць прадметам нашага аналізу.

Адным з галоўных варункаў для мастацкай гутаркі гэта прывядзеньне яе ў выгляд натуральнай гутаркі, а паступова паказваючы ўзрост душэўнай энэргіі, унікаць крыклівасьці ненатуральнай, а таму і не мастацкай. У маналёгах трэба ўнікаць дэклямацыйнага патасу. Раней чымсь навучыцца якой небудзь ролі ў драме, трэба пачаць з паасобных мейсц драматычнага твору.

Каб сваю гутарку зрабіць яснай, трэба пачаць дэклямацыю ў няхуткім тэмпе, шляхам павольнага чытаньня гэкзамэтра, напрыклад „Ільяда“ Гомэра, пераклад праф. Б. Тарашкевіча.



# На сонечны бераг!

Перад намі сьвежа выданы Ст. Глякоўскім і Я. Найдзюком зборнік вершаў: *Міхась Машара. „На сонечны бераг!“* Вільня 1934. У кніжцы гэтай 78 бачын прыгожага друку. Зьмяшчае яна 73 вершы маладога заходня-беларускага поэта, вершы якога друкаваліся часам і ў „Родным Краі“. Выдана кніжка запраўды старанна, ў мастацкай вокладцы ў дзьве хварбы: бранзовую і сінюю. Пад тытулам адбіта клішэ з абраза беларускага артысты-маляра Пётры Сяргіевіча: — на чайцы з парусам вяслуе поўны сілы чалавек з надыхнёным тварам. Кніжка з партрэтам аўтара.

Абдараны бязумоўным талентам, поэт у жыцьці запраўдны гаротнік. Ён малюе сваю асабістую долю бяз ніякага фальшывага сораму, хоць-бы вось гэткім вершам:

З траплом ў руцэ, ў старой,
старой адрыне
Стаю ля плоймы лёну на калу.
Па злоту ў дзень! — вось сэнс
жыцьця адзіны —
Жыдоўскі лён траплю, траплю
трап лю
Траплю лянок! .. Мяцеляцца валокны
Кастрыцца замецьцю кастра і пыл,
Падходзіць жыд — пузаты і нягодны—
— А колькі ві тут вітрапалі кіл?

Тут ня танны антысэмітызм, а вечны контраст паміж працаю і капіталам прыватніка, і гэта робіцца ясным з далейшых слоў поэта;

Тут гэта дрэнь — ня дрэнь,
а працадаўцы,
Усе пакорны гэтай п'яўцы тут,
Ён часта лічыць кіль за дваццаць
Ў адзін звычайны, стары пуд.

Ды тут да крыўд, да працы і клапотаў
Здаўна прывык вясковы пралетар.
За марны грош дрыжыць перад марнотай,
Ніхто ня плюнець гэтай п'яўцы ў твар.

Уся радасьць поэта ў... песьнях (гэтак заўсёды разважае праўдзівы талент) і ён гэткімі словамі зьвяртаецца да іх:

Песьні... солад ваш і мукі
Пеняць радасьці і боль.
Я хачу пявучым гукам
Залаціць мазоль.

А з якой цяплынёю сэрца малюе Машара вясковую хатку ў вершы гэтага-ж назову:

Стрэшка саламяная
Мохам парасла.
Ў вокнах алавяная
Мучыцца туга.
Шыбы дык пабітыя
Летам і зімой.
Дзіры іх прыкрытыя
Вопраткай старой...
Ды хляўцы з паветкаю,
На узбоччы клець.
Ўсюды беднасьць сьведкаю,
Як мужык жывець.

Але поэту ня чужы гэты абраз — ён свой, родны. І Машара канчае верш пытаньнем:

Хатачка вясковая,
Матка беднаты,
Цесная, убогая,
Чым мне люба ты?

Сьветагляд Машары прабіваецца наверх у яго рэдкім па рытміцы вершы „Мы—песьняры". Верш аж просіцца на ноты:

Ідзём мы ў сьвет і новай верай,
Як сонцам, чысьцім пуць,
А словы самі ў песьні сьмела
Віравацца і плывуць.
Прад намі — муць нязнанай далі,
Над намі — сінь вясны,
За намі—йдуць шырокай хваляй
Сялянскіх стрэх сыны...

Ёсьць у зборнічку вершы вастрожныя, некаторыя так і пазначаны: Лукішкі. Ёсьць і... пасьля вастрогу. Гэткая ўжо доля беларуса, калі ён — пясьняр.

Ёсьць у кніжцы, хоць і вельмі дробныя, карэктурныя недахопы, што можа зьбіваць з толку нашага вясковага чытача. Часам трапляецца *у* замест *ў* і наадварот, псуючы разьмер вершаў. Чытач больш граматны сам адчуе недахоп і паправіць, дзе трэба; горш — калі чытач строга будзе чытаць тое, што бачыць. Гэткіх чытачоў хіба што заўсёды ў нас большасьць набярэцца і для іх карэктар мог-бы не пашкадаваць большае ўвагі.

Каштуе зборнічак 1 злоты. Цана па цяперашні цяжкі час як быццам немалая.

Але пара нам зразумець, што сярод культурных народаў таленты растуць, таму што ведаюць цану ім гэтыя народы.

Зборнічак Машары не павінен застацца без чытачоў, ад якіх залежыць, як матар'яльнае, так і маральнае падтрыманьне маладога песьняра на яго нялёгкім жыцьцёвым шляху.

*К. М.*

